Год V. 1927. ЖНІВЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ. 6—7-я кніжка.




# Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Зьмест.


Выраб зямлі па сыстэме д-ра Бурмэстэра . . . 1 ст.
Новы севазварот . . . . . . 4 „
Як выробляць дзярван . . . . . 6 „
Вопыт ужываньня торфу на ўгнаеньне . . 7 „
Гутарка пра нашы сенажажі . . . . . 8 „
Як пазнаць, ці будзе з цялёнка добрая карова . 11 „
Выкарм лягчаных сьвінак і кабаноў . . . 12 „
Скотныя магільнікі і іх значэньне ў барацьбе з заразьлівымі хваробамі жывёлы . . . 14 „
Калі і як садзіць пладовыя дрэвы . . . 15 „
Як зрабіць таннае віно з фруктаў і ягадаў . . 18 „
У справе арганізацыі беларускіх пчаляроў . . 20 „
Парады аграгнома . . . . . . . 21 „
Парады для гаспадынь . . . . . . 24 „


ЦАНА асобнага нумару з дастаўкай да хаты 30 гр.

Друкарня С. Бэкера Вільня. Субоч 2.

# Ад чытача да чытачоў „САХІ“.

(Пісьмо ў Рэдакцыю).

Сяляне! Прабіў час, які нас заве да творчае працы, да працы, якая вывядзе нас з нэндзы, убоства на шлях дабрабыту і заможнасьці.

Сяляне! Сягоньня наша гаспадарка пераживае цяжкі крызіс, цяпер кожнаму сьвядомаму гаспадару адкрыліся вочы, што гаспадараць і далей так, як гаспадарылі нашы бацькі і дзяды, якія мелі шмат больш зямлі—ёсьць згуба для нас. Няураджаі, недароды—вось што бачым мы на нашай Бацькаўшчыне... А тут яшчэ недахоп зямлі...

У гэты час нявольна думка сягае да нашых суседзяў—немцаў, чэхаў, латышоў і інш., дзе заможнасьць вясковага, і дробнаго гаспадара, шмат папярэдзіла нашу.

Чым-жа яны паднялі сваю земляробскую вытворчасьць?

**Асьветай, асьветай і асьветай!**

Апроч земляробскіх школаў, курсаў, тут сваю ролю сыграла і родная сельска-гаспадарчая часапісь. Там няма цяпер ніводнага гаспадара, у якога не ляжала-бы на стале адна ці дзьве сельска-гаспадарчых часапісяў?

А ў нас?

Адна наша „Саха“, якая выходзе толькі адзін раз у месяц і па баячна-нізкай цане, ня можа акуратна выходзіць за адсутнасьцю патрэбнага ліку падпішчыкаў.

Ня хочацца верыць, што мы, беларусы, і пасьля грому арматаў і пасьля рэвалюцыйныхураганаў, якія патрасьлі нашу старонку, яшчэ сьпім і не ўяўляем сабе, што ратункам для нас ёсьць толькі асьвета.

Ня хочацца верыць, што мы можам **пашкадаваць 2—3 зл. у год** на сваю родную с.—г. часапісь!

Дык-жа, сяляне, за працу, за асьвету! Хай-жа кожны падпішчык і чытач „Сахі“ прадбае яшчэ падпішчыкаў і чытачоў, хай кожны сьвядомы беларус возьме на сябе абавязак занасіць „Саху“ у самыя глухія куточкі нашае Бацькаўшчыны, хай кожны грамадзянін паслужа сваёй часапісі парадай, падпіскай, чым мы прынясём карысьць нашай старонцы.

Дык, сяляне, за працу, за асьвету!

Кахаючы Вас

Стары Гаспадар з Дзісеншчыны.

САХА
ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ МЕСЯЧНІК СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

# Выраб зямлі па сыстэме д-ра Бурмэстэра.

Палітычныя і эканамічныя ўмовы нашага жыцьця, пераселеннасьць нашага краю, крыўднасьць „аграрнай рэформы“, дзякуючы якой беларускі селянін пазбаўлен магчымасьці павялічыць свой надзел, прымушаюць нас шукаць новых шляхоў, пры дапамозе якіх мы маглі-б павялічыць прадукцыйнасьць свайго земляробства—гэтай галоўнай крыніцы істнаваньня нашага краю. Памысьліць аб гэтым мы—беларусы павінны тым больш, што ў нас амаль-што няма ніякай прамысловасьці, лішка рабочых рук на вёсцы дае сабе знаць востра, а недароды ў нашай краіне зрабіліся хранічнымі (сталымі). Ратаваць нас і вывясьці на шлях заможнасьці, можа сягоньня толькі земляробства, але тады, калі мы зьвярнем на яго ўсю сваю ўвагу і выведзем яго з таго стану, у якім яно цяпер знаходзіцца.

Мы бачым, як іншыя народы, ужо ўзяліся за працу, аб выніках якое красамоўна кажа статыстыка*).

Больш усяго папрацавалі над шуканьнем новых спосабаў паляпшэньня свайго земляробства ў апошнія часы немцы, ад якіх „Вялікая крывая бойка народаў“ і спадчына яе адабралі калёніі і іншыя тэрыторыі, як і палажылі на іх шмат, на першы пагляд, здавалася, непасільных цяжараў, што бязумоўна не магло ня выклікаць на некаторы час у-ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі вострага крызісу. У гэтым становішчы апынулася і нямецкае земляробства. Але ў гэты цяжкі і прыкры мамэнт ратункам для немцаў зьявілася сыстэма д ра Бурмэстэра, які ў кніжцы сваей „Die Exakte Bodenwirtschaft прапагандуе з мэтай ратаваньня нямецкакага народу перад згубнай спадчынай вайны сваю сыстэму сельскае гаспадаркі, дзе ўсё абдумана і абгрунтавана шмат гадовымі практычнымі дасьледамі.

**І** ў Польшы сягоньня на гэту тэму лепшыя**) гаспадары вядуць дыскусіі (спрэчкі), с'езды і сабраньні. На жаль

*) Навука, паказываючая ў лічбах даныя па надзіраньнем якога-небудзь зьявішча.

**) Гутарка ідзе аб Конгрэсоўцы і Заходніх Кресах.

нічога гэтага ня відаць ня Усходніх Крэсах (на Беларусі), дзе буйныя земляўласьнікі гаспараць гэтак (калі ня горш), як нашы сяляне.

Сыстэма гэта дужа добра надаецца і для нас таму, што яна вымагае шмат рабочых рук, а ў Заходняй Беларусі, як вядома, бязпрацоўных не бракуе.

Паглядзімо цяпер, што новаго ўносіць сыстэма Бурмэстэра да сучасных паглядаў на выраб зямлі і культуру расьлін.

Перш, сыстэма гэта кладзе новыя пагляды на закон **мінімума**,*) які закратвае ня толькі **спажыву**, але **цяпло, паветра** ў зямлі, **сьвятло і ваду**.

Пры адсутнасьці, ці недахопу аднаго з гэтых фактараў, хаця-б усе другія былі ў дастатку для росту расьлін, апошняя расьцець слаба, ад чаго і бываюць дрэныя ураджаі.

Каб падняць ураджайнасьць зямлі, сыстэма Бурмэстэра рэкамэндуе ўжываць **спэцыяльную глыбокую ворку** з побач іншымі добравядомымі спосабамі вырабу зямлі, далей— **сільнае ўгнаеньне**, рэдкі пасэў і міжрадковую апрацоўку зямлі.

**Глубокая ворка зямлі.** Да апошніх часоў на мэханічны выраб зямлі не зварачвалі належнай увагі і толькі пасьля вайны, дзякуючы ўздаражаньню мінэральных (штучных) угнаеньняў, за гэтым сталі больш пільна сачыць, бо ўжо ад аднэй правільнай мэханічнай апрацоўкі зямлі мы можам падняць ураджайнасьць яе, робячы структуру (будову) зямлі дробна-груздаватай, на што добра адклікаецца рост расьліны і дзеля чаго лепш выкарыстоўваюцца дарагакаштоўнае мінэральнае ўгнаеньне. Апрацоўка ральлі пачынаецца яшчэ ў часе росту збожжа, якое трэба сеяць радкамі спэцыяльнымі машынамі (радковымі сяўнікамі). Потым, зараз-жа па здыйму збожжа, ральля арэцца, не шкадуючы, што травой ня можа карыстацца наша скаціна. Страта гэта тут аплаціцца павышэньнем пасгупнага ўраджаю. Гэтай воркай, разам з забаранаваньнем зямлі спэцыяльна збудаванымі валакушамі, паддзержваюцца лепшыя ўмовы для жыцьця бактэрый ральлі, лепш перапрываюць пажніўныя астачы і лепш ідуць хімічныя працэсы зямлі і адначасна нішчыцца дзікая трава— галоўны вораг сялянскіх палёў. Адначасна засьцерагаецца выганяць на ральлю скаціну, бо ў праціўным выпадку ўся праца гаспадара не дасягае мэты. Араць трэба да тэй глыбіні, да якой дазваляе слой ральлі. Лішне дзікай зямлі на паверхню выкідваць ня трэба. Спэцыяльнай табліцы ў вяршкох для кожнай ральлі няма і тут гаспадар сам мусіць разьбірацца. Глубокую ворку д-р Бурмэстэр рэкамэндуе рабіць спэцыяльным плугам з паглыбячом.

*) **Закон мінімума** кажа, што расьліна можа расьці ў валежнасьці ад таго, што знаходзіцца ў ральлі ў найменьшай колькасьці.

Вясной, каб ня высушыць ральлю, зямлю часта ня аруць, а толькі абмяжоўваюцца ўспульхненем верхняга слою, каб перарваць капілярнасьць, гэта знача, перарваць падыйм вады з ніжэйшых слаёў ў верхні, які аддае яе ў паветра.

**Угнаеньне.** Навінай ў сыстэме Бурмэстэра ёсць спосаб і колькасьць ужываньня штучнага ўгнаеньня. У добрых умовах росту, расьліны могуць браць з зямлі шмат больш пажыўных матэрый, чым мы даём іх цяпер.

Адношаньне азоту, фосфару і паташу павінна быць як 2 : 1 3 у кораньклубнеплодаў і 2 : 1 : 1 у каласавых.

**Рэдкі пасеў,** перадусім на землях сухіх і лёгкіх, робіцца з тэй мэтай, каб расьліны менш выпарвалі вады, чаму яшчэ дапамагае міжрадковая апрацоўка зямлі. Апрача гэтага, рэдкі пасеў перасьледуе мэту, каб для расьлін ня было замала сьвятла, што заўсёды здараецца пры густым пасеве.

Што-ж тычыцца паветра, каторага можа не хапаць на землях мокрых і цяжкіх, дык добрая апрацоўка зямлі паміж радкамі пры рэдкім пасеве, а перадусім асушка дрэнамі могуць дапамагчы, каб паветра ня сталася ў мінімуме (у найменьшай колькасьці).

**Міжрадковая апрацоўка зямлі.** Новым для нас, беларусаў, зьяўляецца ў сыстэме Бурмэстэра міжрадковы выраб зямлі. Робіцца гэта з мэтай даць доступ паветру аж да падгрунту, дзеля чаго тут не абмежваюцца толькі ламаньнем коркі, выклікаўнай пякотай пасьля раптоўных дажджоў, а ўспульхваюць цэлы выраблены слой зямлі пры дапамозе спэцыяльных паглыбячоў. Зразумела, што пасеў трэба рабіць спэцыяльнымі машынамі (радковымі сяўнікамі), якія нашых вёскам чаc ўжо набываць суполкаю.

Агульніваючы ўсе вышэйгаворанае, нельга не сказаць, што ідэя павялічэньня прадукцыі зямляробства старая, як старо і само хлебаробства. Кожны шаг разумнага гаспадара мусіць быць пакіраваны да таго, каб павялічыць карысьць сваей труднай працы, да чаго прымушае яго яшчэ і той факт, што лік едакоў у яго сям'і прыбывае, а на павялічэньне сваіх надзелаў пры сучасных палітычных умовах, як ужо сказана, надзеі няма.

Гэтаю ідэяй авеяна і сыстэма новай гаспадаркі д-ра Бурмэйстэра. Ня ёсьць яна шаблонам, не дае рацэптаў, якіх наагул у гаспадарцы даваць амаль-што немахчыма, але тут гаспадар, каторы можа пагаспадарску думаць, павінен разважыць, што для яго карысна і цэнна і па магчымасьці ўжываць новы палепшаны спосаб вырабу сваей зямлі і вядзеньня гаспадаркі.

Няма сумляваньня, што з новай гаспадаркі скарыстаюць шмат хлебаробаў розных народаў. Добра і пажаданна была-б, каб і мы, беларусы, не апынуліся апошнімі. Вядома, што мы культурна ідзём у хвасьце другіх народаў і спазьняемся на дзясяткі гадоў. А між тым, жыцьцё, не стаіць на адным месцы: ўсё рухаецца уперад. І той выгравае, хто ідзе разам з поступам.

Сяляне! Ці-ж мы і тут павінны прайграць і ня ісьці разам з навукай, якая толькі адна можа зрабіць нас матэрыяльна сільнымі і адчыніць дзьверы да лепшай эканамічнай і палітычнай нашае будучыні?

**У. Павалковіч.**

# Новы севазварот.

Заходняя Беларусь ёсьць сягоньня краінай панаваньня трохпалёўкі, са шкоднасьцю якой нашы чытачы пазнаёміліся ў папярэднім нумары „Сахі". Рэдка дзе можна ўбачыць на хутарох і засьценках, дзе гаспадарaць лепшыя гаспадары, іншыя севазвароты, якія заўсёды не адказваюць нашым умовам, бо яны ўзяты большаю часткаю або з расейскіх агранамічных кніжак і практыкі, або з полiскіх, а апошнія, ў сваю чаргу, ўкладваліся з практыкі заходня-эўрапейскіх дасьледчых гаспадарак. Усе гэтыя севазвароты не дапасаваны да нашых умоў, бо Расея—край пераважна сухога земляробства, а Заходняя Эўропа—мокрага. Мэтады вядзеньня гаспадаркі на Усходзе, як роўна і на Заходзе Эўропы, не заўсёды падыходзяць па кліматычных і грунтавых умовах, да нашых. Апрача гэтага, там бачыцца імкненьне налягаць на адзін кірунак гаспадаркі—зернявы, травяны, ці тэхнічны. Між тым, наш селянін на вёсцы ці на хутары і засьценку сягоньня цікавіцца ўсімі патрэбнымі ў гаспадарцы расьлінамі, а суадказнага месца для іх у гэтых севазваротах знайсьці цяжка. Усе севазвароты, як 4—5 7—8 палёвыя маюць яшчэ той недахоп, што з трохпалёўкі на іх перайсьці марудна і для нашага селяніна—работа складная (сложная), а гэта адно часта палохае нашых гаспадароў і адбівае ахвоту разьвітацца з тым парадкам на полі, з якім ён у працягу цэлых вякоў звыкся.

У гэтым нарысе мы разглядзім шасьціпалёвы севазварот, які раіць грам. М. Лайкаў у часапісі „Плуг“.

| 1-е поле | 2-е поле | 3-е поле | 4-е поле | 5-е поле | 6-е поле |
|---|---|---|---|---|---|
| Папар занята выкай | Жыта з пасевам канюшыны | Канюшына 1-га году | Канюшына 2-га гаду | Выпас для жывёлы | Ярына (пераважна лён) |
| Папар з лубінам на ўгнаеньне | Жыта з пасевам сэрадэлі | Буракі па гнаю | Бульба | Бабовыя расьліны | Ярына (авёс і ячмень) |

Як бачым, каб тут перайсьці на шасьціпольле, трэба толькі кожнае поле пры нашай трохпалеўцы разьбіць на 2 часткі. На гэтым шасьціпольлі заводзіцца два пладазьмены: травяна-чёнавы і асыпна-бабовы, што якраз суадказвае патрэбам нашага сялянства і вымаганьням сельска-гаспадарчае навукі.

Плошча пад выпасам скаціны паменшаецца ў 4 разы, і трэба думаць, што гэта частка, вышаўшая з-пад канюшыны, лепш накорміць нашу жывёлу, чым увесь сялянскі папар (талока). Гной тут кладзецца толькі на $^1/_6$ частку ўсей зямлі, а $^1/_{12}$ урабляецца лубінам. Дзякуючы таму, што гной кладецца і пад жыта і пад буракі, угнаеньне будзе раўнамерным, а недахоп яго напаўняецца лубінам. Лён ідзе па канюшыне, якая за 3 гады дае яму адпаведнае месца.

Што дае селяніну гэткае шасьціпольле?

Грам. М. Лайкаў падлічвае, што гаспадарка ў 5—6 дзесяцін ральлі можа даць ураджай больш, як 720 руб. золатам, ня біручы пад увагу, што пры гэтым пладазьмене ўраджаі усіх культур будуць з кожным годам паступова павышацца, што культура траў і караньплодаў дае магчымасьць палепшыць нашу жывёлагадоўлю, ад чаго, трэба спадзявацца, паднімецца заможнасьць усей гаспадаркі.

Пры гэтым севазвароце пад жыта адпускаецца не $^1/_3$, а $^1/_6$ частка ўсей зямлі. Паменьшэньне плошчы азімых хлябоў тут, трэба думаць, акупіцца павышэньнем ураджаяў іх, што і не павінна палохаць нашых дробных земляробаў, у якіх назіраецца імкненьне зварочваць галаўную ўвагу на жыта ці пшаніцу.

Адсутнасьць папару, заменяе выпас для жывёлы з-пад канюшыны. Апрача гэтага, селянін можа падкармліваць скаціну вікай, а потым сэрадэлей, якія сумысьля тут і ўводзяцца ў пладазьмен.

Праўда, тут часта бывае, што селяніну нашаму за шмат месца для лёну, і буракоў, а для турнэпсу (кармавой рэпы) яго няма. Але гэты севазварот дае магчымасьць павялічваць ці памяншаць плошчу пад гэтыя культуры, ня шкодзячы ў той самы час пладазмену. Напрыклад, калі гаспадару нязручна сеяць многа лёну, дык ён частку поля з-пад кавюшыны можа заняць аўсом, частку поля з-пад бўракоўні можа адпусьціць для бульбы, пасьля якой добра расьце кармавая рэпа.

Маючы ў гаспадарцы такія запасы корму, як канюшына, буракі, зярнё бабовых, лёгка злажыць кармовую норму і перайсьці да правільнага кармленьня жывёлы.

Гэты севазварот пры нашым адражэньні сельскае гаспадаркі можа вельмі прыгадзіцца для Заходняе Беларусі.

**У. Павалковіч.**

# Як вырабляць дзярван.

За мінулую вайну ды і падчас рэвалюцыі шмат дзе поле было закінута, чаму і ўтварыліся дзярваны. Цяпер жа гэта зямля дасталася многім безьзямельным і яны прымушаны сяк-так выраблядь дзярван. Яшчэ горай, калі ў іх няма каня або ён слабасільны. Але і выраблядь дзярван трэба ўмеючы. Выробляючы яго ўпяршыню, гаспадар часта робіць памылкі і траціць дарэмна працу.

Мне прышлося вырабіць на поле 8 дзес. дзярвана (дзярван меў ня менш 10 год). Перш і я рабіў памылкі, але хутка справа сама навучыла. Найлепшая ральля у мяне выходзіла тады, калі выраб дзярвана я праводзіў так: у верасьні я няглыбока ўзорваў дзярван (да 2-х вяр.) і пакідаў яго так да вясны. Пры ворацы плуг трэба настроірь так, каб ён лепш высьцілаў. Вясною-ж у пачатку мая (як на полі падсохне) трэба дзярван пацягнуць разы два бараною, але абавязкова „па шэрсьці“ скібаў. Праз тыдні два гэту працу трэба яшчэ раз зрабіць, а далей да самай мешані скародзіць ральлю ўжо ўдоўж і ўпоперак, каб не зьявілася трава.

Першыя два баранаваньні добра прыкрыюць дзёран, а далейшыя будуць падварушваць скібы, ад чаго яны будуць лепш прэць.

Пры мешані пад жыта (за 2—3 тыдні да пасеву) дзярван звычайна ў мяне ён перасыпаецца, як зямля на гародзе. Ня бывае ні воднага кусочка зялёнага ці жывога дзерну.

Але яшчэ лепшым бывае поле пры заворваньні яго пасьля прыборкі жыта на другі год. Значыцца, дзёран прэе яшчэ адзін год. Але цяпер поле бывае пульхнае, камкава-

тае. Ня вясну такое поле ідзе ў мяне пад бульбу. Для добрага ўраджаю бульбы трэба яшчэ падвесьці 1200—1500 пуд. гною. Сарнін-жа на такім полі ня знойдзеш.

Ад такога выррабу дзярвана мала чым адрозьніваецца ў мяне аб выррабу канюшынішча. У мінулым годзе так я вырабіў канюшынішча ½ дзесяціны.

15-га ліпня (пасьля прыборкі канюшыны) я пусьціў па канюшынішчы пружыноўку і добра яго перадраў. За 2½ тыдні да сева жыта ўзьмяшаў, да гэта часу поле добра адсырэла і давала пульхную ральлю.

У бягучым (1927) годзе на гэтым вучастку жыта зжаў 20 ліпеня, на другі дзень заараў і 23-га пасеяў лубін на зялёнае ўгнаеньне пад авёс 1928 г. І цяпер пры воранцы поле было мяккім і даволі сырым Праз тры дні лубін ужо ўзхадзіў.

Паказаны мною выраб дзярвана ці канюшынішча не вымагае лішняй працы, найлепш ачышчае поле ад сарнін і ў кароткі час дае добрую ральлю.

**Пётра з Пустога Поля.**

# Вопыт ужываньня торфу на ўгнаеньне.

Аб карысьці торфу ў сельскай гаспадарцы ўжо шмат гаварылася і пісалася, але наша сялянства ніяк ня можа дайсьці да таго, каб гэта дармовае багацьце з балот перакінуць на свае палеткі і гароды. Амаль што каля кожнае беларускае вёскі знаходзіцца тарфяное балота; у шмат якіх мясцовасьцях на сенажацях ці выганах, дзе раней знаходзілася тарфяное балота, торф ляжыць аграмаднымі пластамі. Ляжыць і карысьці ніякай ня дае, бо без прымяненьня да яго працы ён і ня можа даваць тэй карысьці, якую ён павінен і можа даць.

Я рабіў вопыт ужываньня торфу на ўгнаеньне і вынікамі сам зьдзівіўся. Возьмем хаця-б вопыт 1925 году.

Пад восень, як балота высахла, калі на ім можна было свабодна працаваць, я з братам накапаў вазоў каля 30 торфу і перавёз яго ў свой гарод. Якасьць торфу была вельмі дрэнная, травяністы, не перагніўшы, кіслы. Але карыстаўся тым, што ёсьць.

Торф склаў у адзін груд, прычым пасьля чатырох вазоў торфу клаў воз саломістага гною. Атрымаўся досыць вялікі груд торфу з праслоямі. Рабіў я гэта дзеля таго, каб торф выветрыўся і перагніў.

Вясною гэты груд раскідаў на гародзе плошчаю ў 180 кв. саж.; заараў яго і пасадзіў на гэтым кавалку гародніну: гуркі, капусту, буракі, моркву, памідоры. Ніякага іншага ўгнаеньня, апрача торфу, ня клаў.

Зямля на гэтым кавалку гароду была падзолістая, цяжкая, а гародніна вышла неспадзяваная. Ніколі на гэтым месцы яна такая не расла, нават на добрым угнаеньні. Сталовыя буракі дасягалі да 4-х фун., кармавыя да 14 фун. Морква чырвоная парасла аграмаднай, але палопалася і мела плямы іржы; прышлося яе скарміць скаціною.

Гуркі былі лепшымі на ўсёй вёсцы. З капустай сталася горш: на ёй зьявілася капусная кіла. Ня ведаю і цяпер, скуль яна магла ўзяцца, але прышлося большую палову качаноў выкінуць. Тыя-ж, якія асталіся, вырасьлі аграмаднымі і даходзілі да пуда вагі.

У 1926 годзе, мінулым летам, на гэтым кавалку быў пакладзен гной (увосень 25 г.), з вясны я павёў вапнаваньне і паліўку газяй і таксама пасадзіў капусту і турнэпс. Праўда, хворыя расьліны былі, але ўжо рэдка, ня столькі, колькі ў мінулым годзе. Гародніна таксама вышла вельмі добрая. Трэба дадаць, што зямля на гародзе стала мяккай і рассыпчатай.

Якую-ж карысьць даў торф? Звычайна, штогодна на гэты кавалак гароду клалася 10 вазоў гною і карысьць была малая, а адзін 1925 год даў прыбытку ад гароду звыш 30 руб., ня лічачы 26 год. Апрача гэтага, уплыў, торфу на зямлю адчуваецца досыць значна ў гэтым 27 годзе. Цяпер паўстае пытаньне, чаму-ж селянін ня хоча такой выгаднай справы? Адказ можна даць адзін: наш селянін пакуль ня ўбачыць сваімі вачыма, не абмацае рукамі, не панюхае, дык ён ня дае веры.

**П. Самцэвіч.**

# Гутарка пра нашы сенажаці.

**Асушка балот.** Калі гаспадар мае невялікую дзялянку балота, дык тут часта можна рабіць асушку самому, без спэцыялістага. Правёўшы галоўную адводную канаву ў натуральнае якое-небудзь вадазборышча (глядзі папярэдні нумар „Сахі“ артыкул „Гутарка пра нашы сенажаці“), у гэту канаву праводзяць бакавыя канавы адна ад другой сажняў на 10—15, у залежнасьці ад забалочаннасьці дзялянкі і для якой мэты балота асушаецца. Пры капаньні канаў трэба дзяржацца гэткіх правілаў:

1) Усе канавы павінны быць памагчымасьці простыя, або бяз крутых паваротаў; у праціўным выпадку берагі канавы хутка размываюцца і канава патрабуе частага рамонту.

2) Бакавыя канавы трэба выводзіць у галоўную заўсёды наўскос, калі-ж бакавая канава праведзена ў галоўную проста, дык галоўная канава супроць вусьця бакавой размываецца.

Разьмеркаваўшы, дзе капаць канавы, гаспадар мусіць уявіць сабе ясна, як яму лепш асушаць свае балота: адкрытымі ці закрытымі канавамі.

Асушка закрытымі канавамі заўсёды, як мы гэта бачылі з папярэдняга нумару „Сахі", мае перавагу перад адкрытымі. І калі ў нас на Беларусі гэты спосаб асушкі мала дзе ўжываецца, дык толькі дзякуючы незнаемству з ім нашага сялянства.

Каб асушыць балота закрытымі канавамі, трэба мець дла гэтага матэрыял, якім могуць служыць: гліняныя паленыя трубы (дрэны), тарчыцы ці аполкі, цэгла, каменьні, жэрдкі і фашыны (хвораст з хмызьняку). Гаспадар выбірае той матэрыял, каторы яму будзе таней каштаваць, і які ёсьць у гаспадарцы.

а) Паленыя гліняныя трубкі (дрэны) бываюць розных папярэчнікаў. Далей ад адводнай канавы ўкладваюцца трубы з меншым папярэчнікам, а бліжэй—з большым. Пры ўкладцы дрэнаў трэба пільна сачыць, каб трубкі ўкладваліся на дне канавы, (якая робіцца ў нізе вузкай, а ў верх—шырэй), роўна, каб лінія з трубак ня была нідзе ні вышэй, ні ніжэй. Толькі пры гэтых умовах, можна спадзявацца, што вада будзе сьцякаць правільна і нідзе ня зьбірацца.

б) Асушка пры дапамазе дошчак (тарчыц, аполак) робіцца наступным спосабам: на дно канавы ўкладваюцца акуратна дошкі ці чатырохкутнікам, ці трохкутнікам. У першым выпадку на дно кладзецца па чатыры дошкі, а ў другім—па тры.

в) Каб асушыць балота цэглай, трэба апошнія класьці на дно канавы па чатыры штукі так, каб яны давалі паміж сабой праход для вады.

г) Каменьнямі асушаюць мокрае месца там, калі яны знаходзяцца недалёка ад балота. Гэтым спосабам мы ачышчаем ад каменьняў поле ці сенажаць і скарыстоўваем для асушкі. Каменьні ўкладваюцца на дно канавы, перш буйнейшыя, а потым дробныя, таўшчынёй у 1 фут. Каменьні ўтрамбоўваюцца і засыпаюцца зямлёй.

д) Жэрдкамі асушаюць балота так: на дно канавы кладуць тры жардзіны, на іх дзьве, а на верх 1 жардзіну, якія потым і засыпаюцца зямлёй. Жэрдкі трэба ўкладваць так, каб камель аднэй ляжаў каля верху другой. Калі на дно кладуць чатыры жардзіны, дык на іх потым кладуць тры, а на верх—дзьве.

**Фашынныя дрэны (з хворасту).** У нас, на Беларусі, дзякуючы багатым хмызьняком, асушка пры дапамазе фашын, абходзіцца найтаней. Каб загатовіць матэрыял з хворасту (фашыны), у хмызьніку ставяць чатыры калы накрыж папарна, на гэтыя казлы кладуць хворост даўжынёй каля 2 саж., так, каб камлі з вярхамі хварасьцін паміж сабой пераможваліся і перавязваюць туга ў 3—4 мясцох дротам. Гэтакую фашыну, таўшчынёй у 1 фут, кладуць на дно канавы.

Як дрэны на дне канавы ўпарадкуюцца, дык перад засыпкай канавы зямлёй трэба абавязкава іх пакрыць дзярном, травай у ніз, у праціўным выпадку дрэны, ці то гліняныя трубы, ці дошкі, ці інш. хутка заносяцца зямлёй і канава ня дзееоь.

Правільна ўкладзеныя дрэны дзеюць некалькі дзясяткаў гадоў бяз рамонту.

**Выраб балота.** Калі балота асушана, дык у першыя гады ня трэба чакаць, каб на балоце палепшаўся травастой. Часьцей бывае якраз наадварот: балотныя травы пачынаюць прападаць, а добрыя яшчэ не разрасьліся. Дзеля гэта заўсёды асушаное балота лепш вырабіць, угноіць і ўжыць пад культуру палявых расьлін, ці агародніну.

Каб выдастаць з асушанага балота добрую сенажаць, трэба гады 3—4 сеяць на ім авёс, віка-аўсяную мешаніну, ці кораньклубныя плоды (буракі, бульбу). Гэтыя расьліны сеюць на балоце дзеля таго, каб добра вырабіць дзёран, даць яму магчымасьць перагніць і праветрыцца.

Пасьля папярэдняй працы на асушаным балоце, як выкарчоўваньне, зрэзваньне кунін і інш., пачынаюць грунтоўны выраб балота. У першы год павярхоўна ўспульхніваюць зямлю, ці адразу узорваюць балота на поўную глыбіню. На ўспульхненай баронамі балотнай зямле вясной сеюць авёс. Ураджаі тут бываюць сярэднія і аплачваюць страты за выраб і пасеў. Калі дзярніна бывае вельмі цьвёрдая і немагчыма бараной надраць пульхнага слою, што трэба для пасеву насеньня—дык такое балота ўзорваюць.

Балота лепш паднімаць увосень і спэцыяльнымі балотнымі плугамі. Вясною, як толькі балота прасохне, распрацоўваюць рэжучымі баронамі (культыватарамі), або звычайнымі жалезнымі, раней ўдоўж пластоў, а потым у поперак. Пасьля засеву карысна і нават патрэбна балота прыкатаць.

Каб тут адтрымаць добрыя ураджаі, балота трэба ўгноіць.

Калі такім спосабам дзёран выраблены, можна на балоце сеяць насеньне лугавых траў. Сеючы травы, гаспадар мусіць зварочваць увагу на падбор іх. Тут мусяць быць

травы і з высокім стаяньнем і з нізкім, трывалыя да клімату і грунту. Чым у сумязь тут будзе ўваходзіць больш лугавых траў, тым ураджай пэўнейшы.

Як прыклад, прыводзім адну сумязь траў для асушаных балот у кілёграмах (кілёграм прыблізна 2½ ф) на 1 дзесяціну:

| | | |
|---|---|---|
| 1) | Канюшына чырвоная | 1, 6 |
| 2) | „ Шведская | 2, 4 |
| 3) | „ Белая | 1, 2 |
| 4) | Цімафейка | 6, 0 |
| 5) | Жытнік бязвусы | 4, 0 |
| 6) | Мурожніца лугавая | 5, 6 |
| 7) | „ чырвоная | 2, 4 |
| 8) | Мятлік лугавы | 3, 2 |
| 9) | Лісахвост | 3, 2 |
| 10) | Палявіца белая | 3, 2 |
| | Усяго на дзесяц. | 32, 8 |

**Лугавод.**

# Як пазнаць, ці будзе з цялёнка добрая карова.

Па цяліці можна пазнаць, ці будзе з яго добрая карова Перш за ўсё касьцяк не павінен быць грубы, галава павінна быць вузкай, ногі тонкія. У добрага цяляці на ілбе паміж рагамі шэрсьць робіць віхор, бо шэрсьць з аднага боку ідзе зьверху ўніз і на перавале спатыкае шэрсьць, якая ідзе зьнізу ўверх. Чым больш гэта заметна і чым бліжэй гэты стык да простай лініі паміж вачыма, тым лепш. Гэта адна з галоўных адзнак малочнасьці.

Вушы павінны прапускаць сьвятло чырванаватай водценьню. Шыя павінна быць вузкая, але ня худая. Плячо таксама мусіць быць вузкім, але не выпяраць вострым канцом над сьпіной. Грудзі не павінны быць вельмі шырокімі, а крыж трэба каб быў шырокі.

Скура мусіць быць тонкай, лёгка адцягвацца ў адзін і другі бок, а таксама ўверх. Галодныя ямкі павінны быць глыбокія, бо такая карова будзе шмат есьці і добра даваць малака.

Крыж чым большы, тым лепш. Апроч таго, ён павінен выцягвацца далёка назад, бо пад гэтай часткай таза павінна будзе вырасьці вымя і адпавядаць яму ў шырыню і даўжыню. Хвост тонкі і доўгі. Калі яшчэ ў цяляці на ніжняй

унутранай частцы задніх ног зьвяцца шырокія, моцныя і мясістыя наросты, дык з такога цяляці будзе малочная карова, калі наросты будуць круглыя, дык малака ад такога цяляці (каровы) будзе мала.

Калі вымя вырасла, дык яно павінна быць цьвёрдым, гладкім і бліскучым. Вялікае шырокае, чатырохкантовае вымя—лепшая адзнака малочнасьці і наадварот—маршчыністае, вялае вымя дае мала надзеі на малочнасць.

Калі цялёнак мае рогі, дык і па іх можна судзіць аб малочнасьці. Рогі растуць ад касьці і павінны быць гладкімі і блізкучымі як скура. Даўжыня рагоў і іх пасадка вагі ня маюць. Лобная костка паміж рагамі павінна быць гладкай і роўнай, калі яна ня роўная, дык лепш няхай будзе выпуклая чым упалая, бо ўпалы лоб—дрэнная адзнака.

## Выкарм лягчаных сьвінак і кабаноў.

Распаўсюджан пагляд, што кабанчыкі адкармліваюцца лепш за сьвінак. Вось, чаму кожны гаспадар імкнёцца пакінуць на выкарм пераважна кабанчыкаў, а сьвінак збывае за паўцаны і ад гэтага церпіць страты.

Але ня кожны з іх мусіць ведае, што магчыма і сьвінак лягчаць у маладым узросьце і тады яны растуць і адкармліваюцца ня горш кабанчыкаў, калі опэрацыя зроблена правільна і цечкі ў сьвінак ня бывае.

Опэрацыя гэта лёгкая і балячка хутка зажывае.

Турская дасьледчая станцыя ўжо некалькі год назад пачала рабіць дасьледы ў гэтым напрамку. Першы дасьлед быў зроблен на 2-х сьвінках, але опэрацыя ня ўдалася і сьвінкі ня выжылі. У наступным годзе дасьлед прайшоў з з большым пасьпехам, а ў 1925 г. лягчалі ўжо 8 сьвінак і 9 кнyроў.

Опэрацыі рабіліся па кітайскаму спосабу, пры якім вырэзваюцца яічнікі. Некаторым перарэзвалі толькі яйцавод, але ў гэтых сьвінак наглядаліся потым цечка, хаця на працягу ўсяго некалькіх гадзін. Плямянікі хадзілі разам, але запладненьня ня было. Гэта операцыя была зроблена вэтэрынарным фэльчарам і прашла з поўным пасьпехам.

У 1927 г. лягчалі ўжо 12 сьвінак 8-10 месячн. узросту і на гэты раз опэрацыя дала добрыя вынікі, хаця ўзрост сьвінак быў небясьпечны, апрача таго, сьвінкі былі жырныя, а гэта таксама мала спрыяе опэрацыі. Опэрацыя дала добрыя вынікі і цяпер сьвінкі і кабанчыкі добра адкармліваюцца.

Дасьлед адкорму зьлягчаных сьвінак і кныроў ў 1926 г• ставіўся так: з асеньняга парашэньня 1925 г. лягчалі 8 сьвінак і 9 кныроў ад 3 да 4 м-цаў; гадаваліся яны ў аднольковых умовах. У 1926 пасьвіліся разам з сьвіньмі. З жніўня іх пачалі патроху падкармліваць пажыўным кормам, падрыхтоўваючы іх да адкорму; з верасьня іх паставілі на адкорм. Корм складаўся з мяшанай мукі, макухі, бульбы і сыроваткі. Птстаўленых на адкорм сьвіней штомесяц важылі, каб наглядаць за прыростам жывой вагі, а таксама, каб выявіць % павялічэньня корму.

Вось вынікі, якія даў нам гэты адкорм.

За ўвесь час было зьедзена:

| | Мукі розн. | Макухі льнян. | Бульбы | Сыроваткі | Усяго корм. адзін | Далі прырост | На 1 ф. прыроста патр. карм. адзін. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1) Кабанчыкамі . . | 162 п. 36 ф | 15 п. | 432 п. | 528 п. | — | — | 7,2 |
| У карм. адзінак. . . | 6516 | 640 п. | 4320 | 2112 | 13588 | 46 п. 35 ф. | — |
| 100 карм. адзін. далі | — | — | — | — | — | 13,8 ф. | — |
| 2) Сьвінкамі . . . | 133 п. 14 ф. | 14 п. | 383 | 672 | — | — | — |
| У карм. адзінк. . . | 5324 | 560 | 3830 | 2688 | 12412 | 42 п. 20 ф. | 7,3 |
| 100 карм. адзінк. далі | — | — | — | — | — | 13,7 ф. | — |

Як відаць з гэтай табліцы, вынікі па выкарму сьвінак і кабанчыкаў амаль што роўныя: адна дзесятая, на якую разыходзяцца лічбы, ня можа прыймацца пад увагу.

Сялянства вельмі зацікаўлена гэтымі дасьледамі. Два гаспадары па прыкладу станцыі лягчалі сьвінак на адкорм. Опэрацыя была зроблена 3 і 5 месячным сьвінкам і дала добрыя вынікі.

Лягчаньне сьвінак павінна знайсьці шырокае прымяненьне ў сялянскай гаспадарцы, бо яно дасьць магчымасьць пакідаць на выкарм больш парасят і лепшай якасьці, ня гледзячы на тое—кабанчык гэта ці сьвінка і гэтым пашырыць даходнасьць сьвінаводзва.

М. Юнгер.

# Скотныя магільнікі і іх значэньне ў барацьбе з заразьлівымі хваробамі жывёлы.

Сяляне, будуйце ўсюды скотныя магільнікі. Гэта найлепшы спосаб барацьбы з заразьлівымі хваробамі.

Кожны год, як толькі прыдзе вясна і лета, у нас заўсёды зьяўляюцца заразлівыя хваробы на скаціну. Есьць такія мясцовасьці, дзе заразьлівыя хваробы ніколі ня выводзяцца. Зімою прыціхаюць, а вясною і летам ізноў зьяўляюцца. Часьцей за ўсё гэта таму, што няправільна робіцца закопваньне трупаў жывёлы, якія астаюцца часамі наверсе.

Зараза можа доўга захоўвацца ўнутры трупа і вясною разносіцца вадою ўсюды. Каб пазбавіцца гэтага, трэба трупы жывёлы закопваць так, каб не маглі дастаць ні сабакі, ні сьнегавая, ні дождавая вада. Закопваць іх трэба там, дзе не пасецца скаціна і дзе няма блізка рэчак, а ня ў лагчынах, куды можа нацячы вада. Вада, якая абмыла труп, робіцца заразьліваю і таму разносіць заразу там, дзе яна цячэ. Скаціна, якая напілася такой вады, заражаецца той-жа хваробай. Сабакі, якія адкапваюць трупы разносяць гэтыя кускі падлы па полі і па дварох. Часта бывае, што месца, дзе закопваюцца трупы, бывае забруджана крывёю ад трупа, якая часамі цячэ з носа ці з задняга прахода трупа. Калі на гэта месца пападзе здаровая скаціна, дык і яна таксама заражаецца хваробай. Таму, трэба закопваць трупы ў такіх месцох, куды бы здаровая скаціна папасьці ня магла.

Вось для таго, каб закопваць трупы, як сьледуе, трэба ўсюды рабіць скотныя магільнікі.

Скотны магільнік трэба рабіць на ўзгорку, у сухім месцы дзе няма ні рэчак, ні вазёр, далёка ад дарогі і тых месц, дзе жывуць людзі. Каб скаціна і сабакі не маглі туды папасьці, трэба магільнік агароджваць плотам. Каб дождавая вада з магільніка не разьлівалася, трэба яго па-за плотам акапаць глыбокаю і шырокаю канаваю. На месцы праезду у магільнік трэба зрабіць мосьцік і паставіць шчыльна зачыняючыяся вароты. Магільнік трэба рабіць у такім месцы, у якое-б заглядалі праменьні сонца, якія забіваюць ўсякую заразу. Трэба заўсёды пільна сачыць, каб магільнікі не размывала вада, каб не разрывалі трупаў сабакі, каб праз плот скаціна не магла пралазіць і каб унутры была канава, якая затрымоўвала б ваду з магільніка.

Усе трупы павінны быць закопаны ў зямлю на глыбіню ня менш як 3 арш. Але перад тым, як труп зваліць у яму, яе трэба напоўніць гальлём, саломай ці сухім бур'янам.

Трэба гэта ўсё запаліць і, як полымя добра ахопіць ніжнія галіны, тады трэба валіць труп, разгарнуўшы кругом разгарэўшаеся гальлё, труп завальваць зямлёю. Скура тады абсмаліцца і ад гэтага зараза ў зямлю не праходзіць, а сабакі абсмаленага трупа кусаць ня могуць. Асабліва акуратна трэба рабіць гэта абсмальваньне пры сібірской язьве. Месцы, дзе закопаны трупы, трэба пасыпаць неадгашанай вапнай, альбо выпаліць саломай ці гальлём. Дзеля таго, што зімою трудна бывае капаць ямы, то падрыхтаваць іх трэба яшче з восені. Вельмі часта бывае, што вясною, дзе закопаны трупы, робяцца правалы і таму вясною трэба абавязкова аглядаць кожны магільнік і засыпаць ўсе правалы.

Перавозіць на скотныя магільнікі трупы, асабліва паўшых ад зяразьлівых хваробаў, трэба па магчымасьці на адмысловых вазох, якія заўсёды павінны стояць на самым магільніку і ні на што іншае ня брацца. Падчас перавозкі трупаў трэба сачыць за тым, каб з носу, роту ці задняга прахода нічога па дарозе не цякло. Тыя месцы, адкуль цячэ, трэба затыкаць анучамі ці саломай. Каб да трупа не маглі дакрануцца мухі, яго трэба накрываць саломай ці рагожай.

Вось і ўсё тое, што трэба помніць, каб трупы не маглі заражаць здаровай скаціны.

Вэтэрынар **Жарын.**

## Калі і як садзіць пладовыя дрэвы.

Садзіць пладовыя дрэвы можна і вясной і ўвосень.

Кожнаму, хто зьбіраецца закладваць сад, трэба зьвярнуць увагу на выбар адпаведных мясцоваму грунту і клімату сартоў дрэў.

Падкрэсьльваецца, што справа выбару адпаведных адменаў ёсьць найгалаўнейшая, і калі гаспадар закладваючы сабе садок, выбярэ ня тое, што падыходзіць да кліматычных і грунтавых умоваў—ён толькі сабе пашкодзіць.

У гэтай справе за атрыманьнем інфармацыяў належыць зьвярнуцца да агранома, да сьвядомага садавода, ці садавага закладу.

Далей, кожнаму гаспадару трэба помніць, што для прамысловага саду лепш браць мала адменаў, бо чым больш аднасартовага тавару, тым большую цану дадуць купцы. Калі садок невялікі, дык лепш завясьці 2-3 сарты зімовых яблыкаў і грушаў.

Зімовыя сарты могуць больш часу перахоўвацца і дачакаць лепшай цаны.

Але, закладваючы прамысловы садок, гаспадар мусіць пасадзіць некалькі дрэў і для ўласнага ўжытку, як летніх, гэтак і васенніх сартоў.

Калісьці нашы дзяды прытрымываліся звычаю садзіць дрэвы занадта густа, але цяпер даведзена практыкай, што густая пасадка шкодна для росту пладовых дрэў.

За якіх 15—20 гадоў, ці якраз, як дрэва пачынае пладзіць, яны разрастаюцца і пачынаюць душыць адно другое, ад чаго ніводнае ня можа нармальна разьвівацца.

Практыка ўсталіла такія адлегласьці для пладовых дрэў:

Для звычайных (не карлікавых) яблынаў і грушаў— павінна давацца ня менш 8 мэт. × 8 мэт. (12 ар. × 12 ар.), ці радок ад радку 8 мэтраў і кожнае дрэва ад дрэва таксама 8 мэтраў.

Кожнаму гаспадару, каторы мае замер закладаць сад, перш за ўсё трэба зрабіць разьбіўку, ці намеціць месцы, дзе будуць пасаджаны дрэвы і загадзьдзя выкапаць ямы.

Разьбіўка робіцца так: перш за ўсе намячаюць першы рад і на ім на адлегласьці 8 метраў забіваюцца калочкі. Калі першы рад гатоў, тады бярэцца шнур даўжынёй 16 мэтраў, дзьве асобы бяруць за канцы яго і стаяць каля першага калочка і каля другога, трымаючы канцы шнура каля самых калочкаў. У гэты час трэці чалавек нацягвае шнур і акуратна ўбівае калочак па сярэдзіне (сярэдзіну шнура перад гэтым адзначыць). Потым той чалавек, што стаяў каля першага калочка, пераходзіць да трэцьцяга, а другі стаіць на сваім месцы, й трэцьці ізноў нацягвае шнур і па сярэдзіне яго забівае калочак.

Такім спосабам, за кароткі час можна разьбіць плошчу ў некалькі дзесяцін. Пасля разьбіўкі трэба спраўдзіць, каб усе калочкі давалі раўныя лініі на ўсе бакі.

Гэты спосаб разьбіўкі завецца **шахаўніцай.** Пры разьбіўцы шахаўніцай (8 мэтраў радок ад радка і дрэва ад дрэва) на адным гэктары можна зьмясьціцца прыблізна 160 дрэў (у залежнасьці ад формы плашчы).

Пасьля разьбіўкі трэба выкапаць ямы пад дрэвы. Тут трэба помніць правіла, што для вясновай пасадкі дрэў ямы павінны быць выкапаны з восені, а для вясеньняй—з вясны.

Глыбіня ям залежыць ад грунту. У сярэднім глыбіню можна тут лічыць за 30—35 сантымэтраў. Верхні слой зямлі 15—18 сант. трэба выкінуць на адзін бок, а сподні на другі.

За 2—3 тыдні да саджэньня дрэў стаўляюць і забіваюць калкі таўшчынёй 1¼—½ мэтра. Да гэтых калоў потым прывязываюцца дрэвы.

Разстаўляючы калкі ў ямах, трэба спраўджаць, каб на ўсе бакі яны стаялі ў вадну роўную лінію. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на першыя рады, бо памылка тут ў вадзін вяршок дае розьніцу ў вапошніх на аршыны і сажэні.

Яма засыпаецца сподняй зямлёй на палову сваей глыбіні, а потым наўкола калка насыпаецца зямля стажком (конусам) з такім рахункам, каб верх стажка быў на 8—10 сант. вышэй ад паверхні грунту.

Перад саджэньнем усе сухія карэнчыкі дрэва трэба вострым нажом абрэзаць аж да сьвежага.

На нашу думку, дрэўцы з абрэзанымі карэнчыкамі трэба перад саджэньнем паставіць на цэлую ноч у бочку з вадой, ад чаго карэнчыкі трохі „адыйдуць“ і зробяцца больш сьвежымі.

Садзяць дрэвы так: адзін чалавек бярэ древа ў руку і ставіць яго карэньнямі на стажок і распраўляе другой рукой корэньні на стажку. Найважнейшую ўвагу трэба зварачваць на тое, каб карнявая шыйка, ці тое месца, дзе пачынаюцца карэньні і канчаецца пень (ствол), была вышэй на 6—8 сант. ад паверхні грунту.

У гэты час другі чалавек бярэ на рыдлёўку дробную, бязгрудак зямлю і асыпае карэньні так, каб усе парожнія месцы між каранямі былі запоўнены зямлёй.

Калі ўсе карані будуць пакрыты зямлёй, дык тады ўжо можна і прытаптаць зямлю нагамі. Пасьля гэтага насыпаецца навокал дрэва зямлі так, каб тут магла затрымацца вада. Калі дрэва садзіцца вясной, дык зараз-жа пасьля саджэньня пад кожнае дрэва льюць 2—3 вядры вады. Дрэва, пасаджанае вясной, абрэзваецца цяпер, а апасаджанае ўвосень—вясной.

Абразаючы дрэвы, трэба зьвяртаць увагу, як абрэзаны і разьвіты былі карэньні, чым меньш яны разьвіты ці больш абцяты, тым меньш трэба астаўляць галінак на дрэве.

Цераз 2—3 тыдні, як зямля трохі абсядзе і карнявая шыйка прыйме нармальны стан, гэта знача, будзе на ройні з паверняй зямлі, дрэва трэба прывязаць да калка матузком або лычком, пры гэтым прыцягваць да калка туга ня трэба.

Аграном **М. Несьцяроўскі.**

---

**БРАТЫ БЕЛАРУСЫ!** Падтрымайце сваю родную сельска-гаспадарчую часапісь. Ад вас залежыць, каб „САХА“ выходзіла акуратна і ў павялічаным абыйме.

# Як зрабіць таннае віно з фруктаў і ягадаў.

У нас часта спатыкаюцца такія гаспадары, ў якіх ёсьць значны запас розных ягадаў і фруктаў. Бывае, што прадаць іх па сходнай цане не ўдаецца: то дарога дрэнная, а на месцы цаны не даюць, або і зусім купцоў няма. А тым часам, можна ўсё гэта выкарыстаць ў інакшы спосаб і мець ня толькі выгады для сябе, але зрабіць з гэтых ягадаў і фруктаў добры, смачны і ходкі тавар на збыт, які куды лягчэй і, калі хочаш, можна збыць за добрыя грошы. Хто думае заняцца гэтым, можа навучыцца рабіць віно на заводах, або з кніжак. Каб прысьці на помач нашым чытачом, якія-б мелі ахвоту, заняцца прыгатаваньнем з фруктаў віна, я хачу у гэтым нарысе падзяліцца сваей практыкай, якую здабыў ў прыгатаваньні віна з ягадаў і яблыкаў.

Перш, я пробаваў рабіць віно, як таго вымагала тэхніка, але віно хоць і выходзіла добрае, але прылады і абсталяваньне да вырабу яго абыходзіліся шмат даражэй, чым я мог выручыць за віно. Прыходзілася, альбо кінуць думку аб выкарыстаньні фруктаў і ягадаў, альбо шукаць іншых спосабаў вырабу віна.

Пасьля некалькіх розных пробаў, трэба прызнацца часта няўдалых, мне ўсё-ж такі нарэшце ўдалося зрабіць такое-ж самое добрае, смачнае і трывалае віно спосабам шмат лягчэйшым і танным.

Вось гэты спосаб:

Узяць якую-небудзь дзераўляную пасудзіну: цабэрак, дзежачку, бочачку з адным дном, ці нешта падобнае. Пасудзіна гэта павінна быць абавязкава чыстая, без ніякога паху (найлепш новая). У дне трэба пракруціць каля клёпак невялікую дзірачку, заткнуць яе туга і шчыльна шпунтам так, каб можна яго было выймаць. Пасьля з сярэдзіны пасудзіны прыкрыць шчыльна пракручаную і заткнутую ў дне дзірачку сітам, ці густым рэшатам у верх дном, умацаваць, каб ягадная ці фруктовая гушча не праціскалася. У пасудзіну накладываюць добра перацісканную гушчу (калі няма прэсу, можна рукамі) ягадаў, сьліваў ці другіх фруктаў да паловы і вышэй.

Заправіўшы гэту кашу дражджыма (на вядро кашы трэба палажыць 2—3 лоты дрожджаў) паставіць яе ў цяплаватым месцы, дзе яна і пачне бурыцца—фэрмэнтаваць.

Праз дні 3—4, час-ад-часу, гушчу трэба памешваць, а калі перастануць ужо падымацца бурбалкі, а гушча на дно яшчэ не асядае, стаўляюць пасудзіну з гэтай кашай на стол ці зэдаль, падстаўляюць пад дзірачку вядро, выймаюць шпунт і спушчаюць віно пакуль яно ўсё не сьцячэ. Трэба толькі пры гэтым пільнавацца, каб дзірка не захрасла і прачышчаць яе.

Як толькі віно перастане ўжо цадзіцца, трэба ў гушчу наліць столькі вады, колькі вышла жыжы, добра і акуратна вымешаць і начакаць, пакуль устаіцца, а сама гушча падыймаецца ў гару, тады ізноў спусціць таксама праз дзірачку жыжу, але ў другую пасудзіну, бо віно з гэтай жыжы будзе слабейшае, чым перашак.

Можна яшчэ і трэцьці раз наліваць вады ды ізноў яе тым самым способам спушчаць, але з гэтага ўжо выйдзе ня віно, але квас, хоць смакам і надта добры.

Разьліўшы асобна першы і другі адгон жыжы ў жбаны, а яшчэ лепш, вялікія бутлі, паставіць у найхаладнейшыя месцы—у склеп, ці яму, дзе перахоўваюць зімой бульбу. Ізноў трэба чакаць, аж пакуль жыжа зусім не перабурыцца, а дрожджы і смуга ня асядуць на дно; тады асьцярожна, каб віно не збоўтаць, зьліваюць яго ў другія бутэлькі да самага верху, акуратна закаркоўваюць і ставяць ізноў у сьцюдзенае месца. З гэтага часу віно можна піць.

Калі-ж хто хоча, каб віно яго было трывалейшае, смачнейшае—трэба дадаваць цукру і чым больш яго ўсыпаць (толькі не праз меру), тым лепшае будзе віно.

Цукар можна дадаваць адразу ў ягадную кашу, а яшчэ лепш—сыпаць яго ў чыстую жыжу, ці віно, тады ўвесь цукар пойдзе бяз упадку ў карысьць.

Толькі яшчэ раз скажу, што хоць віно і можна трымаць ці ў вялікіх бутлях, ці ў малых звычайных бутэльках, але трэба наліваць іх паўнюсенькімі і пільнавацца, каб добра былі закаркованы, бо ў праціўным выпадку, віно можа хутка заплесьніцца і псавацца. Ня трэба ўспамінаць, што тут яшчэ галоўным чынам трэба пільнавацца чыстаты.

Каму прыходзіцца рабіць больш віна і класьці ў пасудзіну сьвежые фрукты, запраўляць гэтыя новыя порцыі можна асеўшымі ў віне дражджыма, каторыя і ўліваюць туды ўсе адразу; гэткім парадкам не прападзе тая частка віна, што асталася ў дражджох,

Усялякія ягады, або фрукты лепш браць на віно толькі найсьпялейшыя.

Лепшае віно выходзіць з ягадаў, сьліваў і вішняў,

З ігрушаў і яблыкаў хоць і можна таксама рабіць віно, але работа тут ідзе марудней, ды і цяжка бяз прэсу абайсьціся, бо рукамі разцёрці фрукты трудней.

Чым больш старэйшае віно, тым яно лепшае. Умела і акуратна зробленае віно па смаку ня горшае ад крымскага.

Прыяцель чытачоў „Сахі".

# У справе арганізацыі беларускіх пчаляроў.*)

Бяз ніякага сумлеву, цэлая тэрыторыя, якую займае беларускі народ, вельмі адпаведная для пчалярскай гаспадаркі. З даўных часоў пчалярства на беларускай зямлі красавала, доказам чаго-тыя пярвотныя калоды і борці, якія знаходзяцца ў лясох Беларусі.

Але, каб пчалярства цяпер магло добра разьвівацца, неабходна даць беларускаму пчаляру самую новую веду, новы вульлей для рою і добрую пчалярскую арганізацыю.

Адсутнасьць арганізацыі сярод беларускіх пчаляроў далася адчуць і цяпер на Ўсеславянскім З'езьдзе пчаляроў, які адбыўся 10. III. 1927 г. у Празе (ў Чэхаславакіі). Там інтарэсы беларускіх пчаляроў прышлося адваёвываць украінцам. Бо, калі паўстала пытаньне аб выбарах прэзыдыюму будучага з'езду і украінцы вымагалі, каб у прэзыдыюм быў выбраны і беларус, то паляк, кс Маргонскі, пратэставаў, зазначаючы, што ніякіх беларускіх пчаляроў няма, бо няма там арганізацыі.

Але украінцы дасягнулі таго, што у прэзыдыюме запэўняна мейсца для беларуса, якога мае вызначыць пчалярская арганізацыя.

Вось жа, каб дастойна прадставіць беларускае пчалярства, трэба якнайхучэй арганізаваць у Вільні „Беларускую Пчалярскую Супалку“, якая парушыць з мейсца беларускае пчалярства і павядзе пчалароў па шляху поступу.

Найляпей залажыць такую супалку як коапэратыў, бо такая супалка таргавала-б мёдам, воскам, вульлямі, вузою і ўсякімі пчалярскімі прыладамі, а побач з тым, пашырала-б паступовае пчалярства і рэпрэзэнтавала-б беларускіх пчаляроў.

Гэтакую супалку зарганізаваць ня цяжка. Трэба мець толькі ня меньш 10 ці закладчыкаў і падаць статут у суд для зарагістраваньня.

На першы пачатак магла-б супалка браць вузу, вульлі і прылады дзеля прадажы ў украінскім коапэратыве „Рій“ у Львове, а з часам, сабраўшы патрэбны капітал, адкрыла-б

*) Артыкул спэцыяльна прысланы для „Сахі“ паважаным рэдактарам украінскае часапісі. „Сільскі Світ“, вядомым украінскім дзеячом на ніве роднага землялробства і пчалярства. Працуючы на тэрыторыі Заходняе Беларусі, аўтар гэтага артыкулу добра знаём з умовамі пчалярства на нашае Бацькаўшчыне, дзеля чаго артыкул яго заслугвае тым больш увагі з боку беларускіх пчаляроў, ад імені каторых, рэдакцыя „Сахі“ складае шчырую падзяку паважанаму аўтару і братам пчалярам—украінцам з прыхільнасьць да справы беларускага пчалярства.

свае ўласныя майстэры. Справа гэта вельмі важная і адкладваць яе нельга. Ня чэкаючы, трэба брацца за работу, бо і прылады ды вульлі ужо ў студні трэба мець для прадажы, ды і да новага Усеславянскага З'езду трэба прыгатаўляцца, каб і беларусам дастойна на ім выступіць.

І так, да працы, дарагія браты—пчаляры беларусы!

Вашая праца вывядзе на сьветлую дарогу вашае пчэлярства.

**Аўген Архіпенка.**

# Парады агранома.

**Пытаньне.** Ці можна прадбачыць пагоду ў летку па зімовым запісям. Унас некаторыя сяляне акуратна штодня запісваюць стан пагоды зімой, каб потым судзіць аб пагодзе ў летні час. Ці правільна гэта і ці ёсьць зьявы ў прыродзе, па якім больш-менш правільна можна наперад сказаць, якая будзе пагода?

Б. Балай.

**Адказ.** Хаця зімовыя запісі ня могуць сказаць, якая будзе у летку пагода, але запісі гэтыя пажадана, каб рабілі ўсе сяляне. Гэта прывучыць іх сачыць больш уважліва за зьявамі прыроды і дасць некаторы досьлед. Гэтыя запісі трэба вясьці ня толькі зімой, а праз цэлы год.

Па зьявам прыроды на доўгі час прадбачыць погоду немагчыма, але на падставе гэтых зьяваў можна больш-менш судзіць аб ей за 1—2—3 дні ўперад. Напрыклад, напрамак ветру ўлетку мае вялізнае значэньне для прадбачаньня пагоды; у нас, на Беларусі, пры заходнім ветры можна чакаць доўгай непагоды; калі вецер усходні і ўсходняпаўночны, дык можна чакаць ясней і сухой пагоды.

Калі далёкія прадметы здаюцца бліжэй, чым яны ёсьць, або калі чуваць гукі ці галасы, якія ў другія часы ня чутны (звон, рыканьне скаціны сьвіст гудкоў паравіка і г. д.), пры адначасным захмураньні неба, можна чакаць у хуткім часе дажджу. Таксама „вяшчуюць“ на дождж ластаўкі, калі яны лётаюць нізка, а таксама, можна чакаць дажджу, калі дым сьцелецца па зямле. Калі-ж ластаўкі лётаюць высока, дым ідзе ўгару, а неба праясьняецца, можна спадзевацца, што распаходзіцца.

У добрую пагоду зьмена ветру з усходняга на заходні пры адначасным зьяўленьні цёмных хмараў паказвае, што пагода хутка зьменіцца.

У часе слаты добрай пагоды цяжка спадзевацца, пакуль вецер заходні ці паўночна-заходні.

Бурбалкі на саджаўцы і лужынах у часе даджу—паказваюць, што непагода ня хутка скончыцца. Даджы, які пачнуцца перад усходам сонца, большаю часткаю сьціхаюць ў поўдзень. Працяжная непагода пачынаецца некалькі разовым хмараньнем і мглою; дождж у гэтым выпадку пачынае ісьці а гадзіне 1—2 дня.

**Пытаньне.** Як ляпей адкармліваць сьвіней-самак і што трэба рабіць, каб яны ня трэбавалі у часе адкорму кнура.

**Падпішчык С.**

**Адказ.** Усе засобы (сродкі) якія ўжываюць, каб сьвіньня у часе адкорму ня прыходзіла ў ахвоту—ня пэўныя. Лепш за ўсе сьвіньней (самак), якіх хочуць адкармліць, лягчыць, што вымамагае спэцыяльнасьці вэтэрынара.

**Пытаньне.** Якімі лепш травамі абсяваць узгоркі

**Адказ.** Найлепш узгоркі, і наагул высокія месцы, адводзіць пад ральлю, бо лугавыя травы вымагаюць больш для свайго ўзросту вады, чым палявыя збожжы. Калі гэтага па якім небудзь гаспадарскім мяркаваньням зрабіць нельга, дык лепш абсяваць травамі, якія растуць на сухім месцы. Да гэтакіх траваў належаць наступныя: 1) мурожніца лугавая (аўсяніпа лугавая) Festuca pratensis; 2) Мурог (мятлік лугавы) Poa pratensis; 3) Лядвенец рагаты Lotus corniculatus; 4) Купкоўка (Ежа зборная) Dactylis glomerata; 5) Жытнік прамы (костёр прямой) Bromus erestus; 6) Цімафейка і 7) Канюшына белая. Усе гэтыя травы вымагаюць сухіх грунтаў, на якіх шмат дзе растуць у дзікім стане. У наступных нумарох "Сахі" дамо іх ілюстрацыі (малюнкі).

**Пытаньне.** Як найлепш направіць ток у гумне, каб ён быў моцны і роўны?

**Янка Мізарук.**

**Адказ.** Цяпер напраўляць ток, калі возіцца збожжа з поля—ня час. Каб направіць ток, дык перш-на-перш трэба яго ўскапаць ломам, груду патаўчы, падвязьці сьвежай гліны, перамешаць яе са старою і паліць вадою, каб уся гліна адсырэла. Пасьля трэба дадаць гнаёвай жыжкі і добра перамешаць рыдлёўкай некалькі разоў, і на рэшце перамяшаць нагамі, каб атрымалася аднастайная маса. Пасьля гэтага ўстаўчы ток даўбешкай з дошкі, насаджанай на абрубак так, каб уся паверхня вышла зусім роўнай і гладкай; убіваць трэба кожны дзень, пакуль ток зусім не засохне і незацьвярдзее.

**Пытаньне.** Ці добра ў саджаўку (мачаўку), пры мочцы лёну прыбаўляць гною і попелу.

**Адказ.** Практыкі ільняводы кажуць, што валакно лёну пры моццы яго з гноем атрымліваецца мяккае. Што тычыцца попелу, дык ужываньне яго, трэба думаць, будзе шкодна, бо попел мае у сабе жалеза, вапну, ад прысутнасьці якіх у часе мачэньня лену, валакно атрымліваецца жорскае.

**Пытаньне.** Ці варта перад капаньнем бульбы загадзьдя касіць каліўе бульбы (бульбоўнік) і калі гэту работу ляпей рабіць?

Падпішчык Я. Хадарук.

**Адказ.** Редакцыя „Сахі" амаль у кожным нумары зясьцярагае сваіх чытачоў, каб ня зьнішчалі без патрэбы зялёныя часткі расьліны, пры якіх толькі бывае накапленьне крахмалу і іншых арганічных частак расьліны. Адкладваньне крахмалу у бульбе больш усяго адбываецца пасьля цьвяценьня, дзеля чаго зьяўляецца зразумелым, што касіць загадзья бульбоўнік шкодна.

Каліўе бульбы косяць тады, як яно пачынае жаўцець і сохнуць. Лепш усяго гэту работу рабіць за 2—3 дні перад капаньнем бульбы. За гэты час апошнія сокі у камлёх бульбы пяройдуць у клубні.

**Пытаньне.** 1) Што трэба рабіць, каб пасьля занятага папару (ячмень па гною) вырасла добрае жыта?

2) Што лепш сеяць пасьля сэрадэлі і як лепш яе ужываць: на зялёнае угнаеньне ці касіць на корм?

Дзе можна купіць пружыновую барану на 5 зубоў?

Падпішчык Адам Гарбач.

**Адказ.** Нам ня ведама, што вы сеялі ў працягу некалькіх гадоў перад ячменем, як спустошана ваша зямля і якая яна. Па ячменю добрае жыта рэдка калі вырастае, бо ячмень і жыта вымагаюць ад зямлі аднолькавай спажывы і аднолькава зямлю агалачваюць. Калі вы паложыце пад жыта гной, дык ня шкодзіць дадаць, хаця пудоў 12 на дзесяціну, суперфосфату, які трэба расыпаць перад сяўбой і зьмяшаць яго з зямлёй. У праціўным выпадку суперфасфат, лежачы на певерхні раньлі, спрыяе зьяўленьню коркі, што дрэнна адбіваецца на росьце расьлін.

Вясной можна пасеяць па жыці, як толькі яно пусьціца ў рост, 2 пуды на дзесяціну чалійскай салетры, а праз, тыдні 2—яшчэ гэтулькі салетры. Апошнюю трэба сеяць па сухім расьлінам, у сухую пагоду, бо, пападаючы на мокрыя часткі расьліны, салетра нішчыць іх.

Мінэральныя ўгнаеньні трэба купляць лепш у вядомых складах, ці у добра знаёмых гандляроў, бо часта сялянамі купляецца ня тое, што ён хоча купіць.

Пружыноўка на 5 зубоў ня будзе добрая, бо працаздольнаосьць яе малая і часта зубы адгібаюцца, а ў пружыноўках мясцовага вырабу—зубы ламаюцца. Ломкасьць зубоў залежыць ад сталі, якая выроблена з дрэннае руды. Чым пружыноўка мае больш зубоў, тым яна мацнейшая.

Пружыноўкай ня трэба ўспульхняць зямлю глыбока, бо гэту работу лепш выпаўняе культыватар. Як зрабіць яго самому—будзе гутарка ў наступных нумарох „Сахі".

## Парады для гаспадынь.

**Як даіць неспакойных кароў.** Неспакойных кароў дужа цяжка даіць. Іншыя гаспадыні ў часе даеньня путаюць гэткіх кароў, але гэта мала памагае. Лепш неспакойным каровам на крыжывіну палажыць змочаны ў сьцюдзенай вадзе мяшок, ад чаго часта карова пры даеньні стаіць спакойна. Палажыўшы мокры мяшок, трэба сьцерачыся, каб вада з яго не сьцякала ў даёнку.

**Як сушыць грыбы.** Найперш баравікі і інныя грыбы трэба добра паабціраць і паадрэзваць блізка галовак карэнчыкі; потым самыя грыбы парэзаць ня тоўста ў доўжкі і разсыпаць па сонцы ў якой небудзь пасудзіне.

Як толькі абадва бакі іх высахнуць — зсыпаць у бляшаныя пудэлкі і паставіць іх у сухім месцы. Пры такім спосабе сушкі грыбоў, апошнія робяцца вельмі пахучымі і смачнымі.

**Хлёрак да бялізны.** Хлёрак вельмі прыдатны для бяленьня палатна і бялізны.

За дзень перад мыцьцём бялізны, бяруць ¼ фун. хлёрку, акуратна расьціраюць яго (найменшыя грузолачкі яго могуць папаліць бялізну), памачыць яго ў жбану з вадой і, паставіўшы ў цемным месцы, добра яго акрыць, каб не даходзіла да хлёрку сьвятло. На другі дзень ваду з хлёркам трэба працадзіць праз густое палатно ў балею, куды даліваюць вады і добра вымешваюць.

Добра вымытую і выгатаваную бялізну выціскаюць і складваюць у балею: грубейшую пад спод, а цянейшую—на верх. Балею акуратна накрываюць, бо чым менш будзе даходзіць сьвятла, тым лепш беліцца палатно, ці бялізна. Цераз дзень бялізну трэба вынуць з балеі і пералажыць яе ў другую балею, дзе ў гарачай вадзе ачышчаюць ад хлёрку. Потым бялізну палошчаць звычайным спосабам.

Хлёрак да бялізны можна набыць у кожнай аптэцы і ў крамках.

Выдавец сэн. УЛАСАЎ. Рэдактар У. ПАВАЛКОВІЧ.